№ 88 Ausgabe B.

# ГОМАН

Цана з перасылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—10 м. 80 фэн., на ½ году—5 м. 40 ф., на 3 месяцы — 2 м. 70 ф., на 1 мес. — 90 фэн.

**Беларуская Віленская часопісь**

**выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.**

Адрэс рэдакцыі: Вільня, Віленская 33.
Адрэс адміністрацыі і экспэдыцыі: М. Стэфанская 23.

Цана абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літарамі — 25 фэніг.; дробныя абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці — 60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

**№ 88** (284). Год III. Вільня, **8** лістапада 1918 г. Цана **10** фэн. (**5** кап.)

# ТЭЛЕГРАМЫ.

## 7 лістапада.

**Заходні тэатр.**

На паўночна ўсход ад Удэнарт французы перайшлі праз Шэльду, контратакай мы іх адкінулі. Між Шэльдаю і Уаз французы прабавалі заўзятымі штурмамі перашкодзіць нашым рухам. У апошніх бітвах мы задзяржалі штурм непрыяцеля. Між Уаз і Энь непрыяцель дайшоў лініі Вэрвэн-Розуа. Набапал Рэгэн ён перайшоў праз Энь. Між Энь і Маас ён дайшоў да Вандрэс і Мурзон. На ўсходнім беразе Маас амэрыканцы вялі далей свае заўзятыя штурмы. Мы задзяржалі ворага ў лясох на ўсход ад Мурво і Фонтэнь. На ўсход ад Сівры мы ўдзяржалі ўсе нашыя пазіцыі.

---

БЭРЛІН. Камісія, што паехала сягоньня на заход, каб весьці перагаворы аб замірэньні, складаецца з генэрала Бюргэра, статс-сэкрэтара Эрцбэргэра, генэрала ф. Вінтэрфэльда, флоцкага капітана Ванзоло. Камісія будзе вясьці перагаворы аб замірэньні.

НЬЮ-ІОРК (Рэўтэр). 6.XI. Газеты наказваюць, што на чародным конгрэсе партыя рэспублікацаў, варожая Вільсону, будзе мець большасьць у Верхняй Палаце 4 галасоў, а ў Ніжняй 19.

КІЕЎ. 3.XI. Украінская Нацыянальная Рада пастанавіла склікаць у Кіеў на 17 лістапада украінскі-нацыянальны конгрэс. У конгрэсе прымуць учасьце прадстаўнікі ўсіх украінскіх зямель. Праграма конгрэсу: палітычнае палажэньне ў цяперашні час, нацыянальная позіцыя Украіны, злучэньне ўсіх украінскіх зямель, пытаньне аб украінскай арміі і народных прадстаўнікох і аграрнае пытаньне.

ВІЛЬНЯ. Перагаворы з Расеяй аб звароце банкаўскіх складаў і іншых цэннасьцей, вывезеных у Расею ў часе вайны, закончаны. Цяпер пачнецца самы зварот. Дзеля гэтае мэты пад прэзэствам урадніка (чыноўніка) ўпраўленьня Літвы, Моля, творыцца «Камітэт дзеля звароту меньня Літвы з Расеі». Прэтэнзы аб павароце можна падаваць у канцыляры гэтага камітэту Вільня, Юрскі проспэкт № 26.

КІЕЎ. Дзеля магчымасьці англіцкага дэсанту ў Адэсе ўкраінскі ўрад заявіў, што ён у цяперашняй вайне нэўтральны і просіць не рабіць зямлі Украіны тэатрам ваенных дзеяньняў. Немцы умацоўваюць Крым і узьбярэжжа Чорнага мора.

ВЕНА. У Семіградзі і (Трансільваніі) творыцца румынскае войска, пад камандай румынскіх афіцэраў і з румынскім флагам. У многіх мясцох Славакії народ выганяе ўладу пад уплывам проклямацый Славацкай Нацыянальнай Рады,

БЕНА. 6.XI. Гр. Каролі падзержаваецца ў Вэнгры толькі сыстэмай тэррору. Арыштавана 15 дэпутатаў.

ЛЬВОЎ. У бітвах на вуліцы да нядзелі ў палудзень забіта балей за 60 чал.

БЭРЛІН. 6.XI. У соцыялістычных кругох робяцца сур'ёзныя спробы злучыць правае і левае крыло соцыялістаў (групу Шэйдэмана і групу Гаазэ).

БЭРЛІН. 6.XI Салдаты, што радзіліся ў 1870 і 1871 г. будуць зараз-жа адпушчаны дамоў.

ЛОНДОН (Рэўтэр). 5.XI. **Ніжняя Палата**. Дамаганьне ірляндзкіх нацыяналістаў, каб англіцкі ўрад разьвязаў ірляндзкае пытаньне з праграмай Вільсона аб самаазначэньні народаў, адкінена 196-ма проціў 115-х галасоў.

Ніжняя Палата прыняла аднагалосна закон аб выбарным праве жонак (кабет).

ДЮСЭЛЬДОРФ н Рэйне. Крымінальная паліцыя трэсла тутэйшы аддзел пецярбурскага тэлеграфнага агэнцтва і знайшла большэвіцкія проклямацыі з прызывам да рэвалюцыі. Арыштавана 3 асобы, між імі адна кабета.

ВАРШАВА. 6.XI. 1.400 жыдоўскіх салдатоў 6. аўстрыяцкай арміі у Любліне выбралі жыдоўскую салдацкую раду.

БЭРЛІН. 6.XI. Увечары. **Ваеннае апавяшчэньне**: заўзятыя атакі ля Валянсень, ля Бавэ, пры Ольнуа ля Санр не маглі перашкодзіць нашым рухам між Сэльф і Уаз. Між Уаз і Маас бяз бітваў. На ўсходнім беразе Маас атакі амэрыканцаў. На ўсход ад Дэн яны маглі троху пасунуцца ўперад. На рэшце фронту яны адкінены.

МАРЫАМПОЛЬ. Нованазначаны Віленскі біскуп Матуляйціс-Матулевіч будзе консэкраваны ў Вільні, як прыбудзе сюды папеская буля.

ВАРШАВА. «Przegląd Porańni» наказавае аб адозьве «Камітэту дзеля рэгістрацыі ўраднікаў пры польскай рэгенцыйнай радзе» да ўсіх ураднікаў, каторыя маняцца паступіць на ўрадовую злужбу Літвы, з прадлажэньнем падаваць у гэны камітэт свае просьбы.



## Рэзалюцыі Беларускае Рады у Вільні.

На сваім пасяджэньні 3 лістапада Беларуская Рада ў Вільні ў справе агульнае арыентацыі аднагалосна прыняла гэткую рэзалюцыю:

„Апіраючыся на тым, што абедзьве ваюючыя стораны прызналі ўсім нацыям права на самаазначэньне, Беларуская Рада ў Вільні, ня зыходзячы з грунту незалежнасьці і цэласьці Беларусі і протэстуючы проціў прыпадковае дэмаркацыйнае лініі Берасьцейскае ўмовы, разьдзяляючае Беларусь на часьці,— дзеля абароны нацыянальных і дзяржаўных правоў Беларускага Народу апавяшчае сябе роўнапраўным з Літоўскай Тарыбай краёвым прадстаўніцтвам для этнографічных беларускіх зямель, ляжачых на заход ад старога фронту і жадае найскарэйшага ўтварэньня агульнага Беларуска-Літоўскага часовага парлямэнту з дапушчэньнем пропорцыянальнага прадстаўніцтва ад нацыянальных меншасьцей. Парлямэнт утворыць часовы ўрад.

Задачай часовага ўраду павінна быць удзяржаньне ладу і баспэчнасьці ў краю, дзеля гэтага першай яго мэтаю павінна быць арганізацыя войска і паліцыі. Урад скліча агульны літоўска-беларускі ўстаноўчы сэйм, каторы і ўстановіць форму праўленьня літоўска-беларускага гасударства і адносіны да сябе абодвух народаў.

На прыпадак, калі-б у будучыне не дайшло да ўгоды з літвінамі ў справе злучэньня абодвух народаў у адну супольную дзяржаву, Рада засьцерагае Беларускаму Народу, засяляючаму тэррыторыю на заход ад старога фронту, права злучэньня з рэштай незалежнае Беларусі.

У справе адносін да Літоўскай Тарыбы прынята рэзалюцыя, што Беларуская Рада пашле сваіх прадстаўнікоў у Тарыбу пры спаўненьні гэткіх варункаў:

1. Калі Тарыба стане на пункце цэласьці заходніх беларускіх граніц з Беластокам і Бельскам.
2. Пропорцыянальнае прадстаўніцтва ад беларусаў у парлямэнце і ў урадзе.
3. Шырокая аўтономія беларускіх зямель.
4. Беларускае войска.

**Прыняцьце новых сябраў у Беларускую Раду ў Вільні.**

На пасяджэньні 3 лістапада Беларускай Рады ў Вільні прыня-

# Разрыў Нямеччыны з Большэвізіяй.

БЭРЛІН. Урадова наказаваюць, што з прычыны большэвіцкай агітацыі расейскага ўраду ў Нямеччыне, дайшоўшай да таго, што расейскі пасол у Бэрліне, Іоффэ, карыстаючы з свае недакраннасьці, вазіў з Расеі ў Нямеччыну дзеля шырэньня большэвіцкія праклямацыі, а таксама дзеля непакараньня забіўцаў нямецкага пасла ў Маскве, гр. Мірбаха, нямецкі ўрад запрапанаваў расейскаму ўраду ўзяць назад з Нямеччыны сваіх дыплёматычных і ўрадовых прадстаўнікоў.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 6.XI. Урадова. Члены расейскага пасольства сягоньня нараніцы ад'ехалі ў Расею.

БЭРЛІН. Гагэты ўсіх партый, ня выключаючы і соцыялістычнай, вітаюць пастанову ўраду выдаліць з Нямеччыны расейскіх ураднікаў (чыноўнікаў), што займаліся там пропагандай анархіі.

---

ты 5 новых радных: А. Борык, Дудзяк, К. Душэўскі, Грыкоўскі, Пазьняк. З новапрынятых радных адны дэлегаваны ад арганізацый, другія кооптаваны.

**Дэклярацыя саюза земляўласьнікаў у пасяджэньні Рады Рэспублікі 17X.**

Саюз земляўласьнікаў на пасяджэньні Рады Беларускае Народнае Рэспублікі 17.X. зрабіў гэткую дэклярацыю:

Саюз земляўласьнікаў у асобе сваіх прадстаўнікоў вітае зрэформованую Беларускую Раду, як адзіны орган, каторы можа пры цяперашнім палажэньні правільна выказаваць жаданьні ўсяго мясцовага насяленьня беларускага краю; бачыць у ёй вышэйшую ўстанову, здольную вывесьці Беларусь з стану палітычнай анархіі і эканаміцкай разрухі.

Як арганізацыя эканаміцкая, саюз земляўласьнікаў дае права сваім прадстаўніком належаць да розных палітычных партый, што маюць прынцыпы цьвёрдай гасударственай улады, грамадзянскай волі насяленьня, непадзельнасьці тэррыторыі, красаваньня Беларусі і яе незалежнага разьвіцьця. Ува ўсіх пытаньнях эканаміцкага характару саюз земляўласьнікаў, бароначы права ўласнасьці, лічыць канечна патрэбным ісьці па дарозе абаспэчаньня працоўнага малазямельнага насяленьня зямлёй на справядлівых асновах і пры варунках палепшаньня сельска-гаспадарскай культуры.

**Дэлегацыя Рады Беларускае Народнае Рэспублікі да Літоўскай Тарыбы.**

1 лістапада ў Вільні ў Літоўскай Тарыбы была дэлегацыя Рады Беларускае Народнае Рэспублікі. Дэлегацыя перадала Тарыбе мэморыял Рады Рэспублікі аб незалежнасьці Беларусі.

---

*Вільня, 8 лістапада 1918.*

Незалежнай Беларусь можа быць дваяка: або самой аднэй незалежнай, або злучанай разам з Літвой. Незалежнасьць разам з Літвой балей пэўная дзеля таго, што адразае дарогу да прылучэньня да Маскоўшчыны, што вядзе да нацыянальнага і эканаміцкага занападу беларусаў. Гэга добра ведаюць русафілы і робяць усё проціў літоўска-беларускага гасударства. Для абедзьвюх старон зн. літвіноў і беларусаў гэткая вялікая літоўска-беларуская дзяржава карысна тым, што яна, як дзяржава вялікая можа шырака разьвівацца, будзе дужой і ня будзе пад уплывам чужынцоў. За такую вялікую літоўска-беларускую дзяржаву стаяць, апрача беларусаў, жыды, часьць літвіноў, польскія дэмакраты - краёўцы і польская консэрватыўная партыя ў Літве. Ці ўдасца правесьці агульнае літоўска-беларуская гасударства невядома. Магчыма, што Літва будзе арганізавана ў асобнае гасударства, а Беларусь у асобнае. Беларусы ніколі ня могуць адказацца ад жаданьня незалежнасьці ўсяе Беларусі (з Літвой ці не ўсё роўна), але дабіваючыся незалежнасьці ўсяе Беларусі, беларусы павінны глядзець, каб ніводная частка Беларусі ня была паняволена і каб яна была арганізована дзяржаўна як беларуская часьць. Пры гэтым нацыянальныя і дзяржаўныя правы Беларускага Народу найляпей былі-б забаспэчаны ў тэй часьці Беларусі, каторай прышлося-б з Літвой тварыць адно гасударства. Палажэньне часьці Беларусі, злучанай з Літвой, ня можна навет прыраўнаваць да палажэньня тых часьцей, каторыя маглі-бы быць гвалтам задзяржаны пры Маскоўшчыне або Украіне. У той час, калі з Маскоўшчынай або Украінай напэўна йшло-б маскаленьне або ўкраінізацыя, з Літвой беларусы маглі-б шырака разьвівацца нацыянальна і палітычна.

Выходзячы з гэтага пагляду Беларуская Рада ў Вільні на сваім гістарычным засяданьні 3 лістапада прыняла надрукаваную ў гэтым № „Гомана“ рэзалюцыю. Блізу зусім аднолькава зрабіла Украінская Нацыянальная Рада ў Львове, каторая заместа ісьці на злучэньне з украінскім гасударствам, што будуецца ў Кіеве, пашла на аўстрыяцкую фэдэрацыю. Гэткае становішча Беларускай Рады ў Беларусі на заход ад старога фронту, так і Украінскай Рады ў Галіччыне прадыктавана агульным палітычным палажэньнем, калі абарону роднай зямлі і здабыцьце для яе дзяржаўнага быцьця хоць і не ў завершанай форме трэба выбіраць перад справай навет цэласьці тэррыторы. Пры гэтым тут трэба сказаць, што жывы народ заўсёды будзе чуць сябе суцэльным, якія-б граніцы яго не разьдзялялі. Важна тое, каб кожная часьць народу мела сабе запэўненым дзяржаўнае быцьцё і нацыянальнае разьвіцьце.

Само сабой заходняя Беларусь толькі тады пойдзе на злучэньне з Літвой, калі гэтае злучэньне дасьць ёй рэальную карысьць. Калі-ж гэтага ня будзе, то й ніякае злучэньне немагчыма. Аб гэтым Беларуская Рада ў Вільні таксама вынесла сваю рэзалюцыю.

Сваёй пастановаю Беларуская Рада ў Вільні йдзе на злучэньне Беларусі з Літвой. Ці гэтае злучэньне запраўды настане залежыць ад адносін да беларусаў прадстаўніцтва літоўскага народу. Трэба спадзявацца, што ідэя Літоўска - Беларускага гасударства будзе праведзена ў жыцьцё; беларусаў і літвіноў злучаюць апрача прычын эканаміцкіх, промысловых і гістарычных, таксама небаспэчнасьць перад агульнымі непрыяцелямі. Зьвязавае абодва народы яшчэ і пытаньне аб Вільні і можа некаторай часьці Віленшчыны, каторае пры Літоўска-Беларускай дзяржаве лёгка разьвязаваецца, але каторае было-б вельмі цяжка разьвязаць пры іншай концэпціі.

---

# Літоўскі голас.

Нацыянальныя беларускія кірункі гэталькі блізкія да літоўскіх, што літвін, чытаючы на гэтую тэму стацьці ў „Гомане“ блізу зусім згаджаецца з беларускімі вывадамі. Пэўне народам, каторыя яшчэ ў паганскія часы мелі адну веру, а потым у хрысьціянскія часы вялі адну палітыку, мелі адну сталіцу Вільню і тых самых вялікіх князёў, прадзначана і далей жыць разам, разьвіваючыся культурна і нацыянальна.

Падымаецца цяпер пытаньне ўрадовае мовы, каторае можна разьвязаць як у Швайцарыі, дзе ёсьць тры нацыянальнасьці: француская, нямецкая і італьянская, каторых мовы прызнаны ўрадовымі і іх павінны ўмець ураднікі (чыноўнікі). На дамаганьне кліента ў францускай мове ўвесь процэс вядзецца пафранцуску. Таксама на дамаганьне нямецкага і італьянскага кліента. Штось падобнае ёсьць у Фінляндыі, дзе ёсьць дзьве мовы фінская і швэдзкая. Ведама, што ў ніжэйшых мясцовых судох не заўсёды будзе патрэба дзьвёх моваў. Край павінен быць падзелены на вокругі: беларускія, літоўскія і мяшаныя. У вокругах беларускіх ужывацца будзе беларуская мова, у літоўскіх—літоўская, а ў мяшаных на дамаганьне кліента адна з іх. У вышэйшых краёвых судох і інстытуцыях гаспадарства (гасударства) павінны абавязаваць абедзьве мовы.

Паслы ў парлямэнце павінны ўмець абедзьве мовы, каб як скажа беларускі пасол пабеларуску зразумелі літвіны і наадварот.

Да гэтага павінна тарнавацца ўсё: стэнографія, урадовыя газэты, сэкрэтарыяты і г. д.

Каб гэтага дапяць павінна быць прынамсі пачынаючы з сярэдніх школ абавязкавае навучаньне абедзьвюх моў у школах беларускіх і літоўскіх.

Дзеля таго, што ў судох ня можна гэтага адразу зрабіць, прыдзецца абыходзіцца часова з помачай перакладчыкаў, устанаўляючы ў будучыне тэрмін дайсьці да парадку. Можна дзеля гэтага ўладзіць часовыя школы.

Беларусы і літвіны за гэрб ужывалі заўсёды пагоні, цяпер сталася ў гэтым невялічкая розьніца. З згодай абедзьвюх старон можна гэтую розьніцу зьнішчыць, прымаючы аднолькавыя колеры.

Войска ў гасудартсве можа быць для беларусаў з камандай беларускай, для літвіноў—з літоўскай; жыхары мяшаных вокругаў павінны магчы ўступаць у адны або другія палкі, або згадзіцца на адну з каманд.

Дзеля таго, што велікарусы называюць сябе расейцамі, а малярусы—украінцамі, дык няма патрэбы звацца беларусамі, бо ня трэба адрозьняваць. Беларусы павінны, як калісь, звацца тыкеля русінамі.

Пакідаю справу далейшай дыскусыі.

*М. Довойна Сыльвэстровіч.*

28.X. 1918 г. Вільня.

---

# У Вільні і ваколіцах.

× Генэральны камісар Літвы, патайны райца Цыммэрле, прыехаў у Вільню.

× Выбраны Тарыбай за міністра-прэзыдэнта Літвы п. Вольдэмар родам з сялян Сьвянцянскага павету, яго продкі нямецкага роду і прышлі сюды з Польшчы.

× Водлуг статыстычных данных лічба прыехаўшых з Украіны і Расеі да канца кастрычніка даходзіць у Вільні і ваколіцах 100 тысяч чалавек.

× **Віленскі саюз работнікаў графічнага фаху.** У нядзелю 10 лістапада на Вароняй вул. № 5 (Работніцкі Клюб) у 3 гадз. папалудні мае адбыцца агульнае сабраньне сябраў „Віленскага саюза работнікаў графічнага фаху“. Парадак дня: 1) справаздача з працы Саюза, 2) выбар новых сябраў праўленьня, 3) вольныя пропозыцыі.

Праўленьне просіць усіх сябраў прысьці на агульнае сабрань-

---

*І. Сербаў.*

# Аб беларускай народнай песьні.

(Гл. „Гоман“ № 86).

* * *

Ой памажы, Божа,
Вясну заклікаці!
Ой, на вясну-красву,
На ціхае лета
Радзі, Божа, жыта;
Жыта і пшаніцу.
Ой жыта-пшаніцу,
Усякую пашніцу.
На жніве капамі,
На палі стагамі,
А ў гумне сьціртамі,
Добрымі снапамі.
На асецы сушшу,
На таку ўмалотам.
На млыне намолам.
А ў засеках спорам.
А ў печы прыпёкам,
Да на стале сыцьцю,
Усё к добраму жыцьцю! [3]).

З надрукаваных песьняў першая характэрна сваёй жартлівасьцяй і вялікім маладым задорам. Дзяўчаты сьмяюцца з сваіх дзяцюкоў, паказаваючы ім, што суседнія хлопцы жэняцца, а яны яшчэ ходзяць дзяцюкамі.

У другіх песьнях выказаваецца хвала вясьне і працы земляроба, яго надзеі на ўраджай.

**Сорокі.** У паўднёва-ўсходніх беларусаў яшчэ захаваўся гэткі звычай, што 9 сакавіка яны ўсім обчаствам робяць на высокіх старых дрэвах калыску і ўвесь дзень калышацца на ёй. Маладжеж пры гэтым пяе да вечара песьні вясьне. З 25 сакавіка ўжо пачынаюцца вяснавыя карагоды. Дзяўчаты па вечарох зьбіраюцца на прагалачках і пачынаюць гукаць вясну. Гетае гуканьне неяк вісіць у паветры. Пяюць шырака, галасна, высокім контральто. Адна песьня вясьнянка йдзе за другой, адзін хор канчае, а там другі пачынае. І гэтак цягнецца пераз усю вясну да русальнае нядзелі. З пяяньнем вясьнянак праходзіць і **Чырвоная горка.**

**Веснавыя песьні.** З абрадных песьняў вяснавых найвялікшы аддзел. У некаторых мясцох Беларусі, найбалей на Палесьсі, яны называюцца пастускімі песьнямі, бо іх пяюць дзяўчаты—пастушкі вясной, пасучы жывёлу.

Вялікшасьць вясьнянак пранікнены глыбокім лірызмам, далікатнасьцяй і глыбінёй учуцьця. Дзяўчаты або маладзіцы звароваюцца да вясёлае вясны і віднае прыроды—краснага сонца, яснага месяца, шырокага поля, цёмнага лесу,—і выказаваюць прад імі настроі свае душы. Прыраўноваваюць сябе да птушачкі, рыбкі, пчолкі, траўкі і красачак. Вось прыклады вясьнянак:

[3]) М. Юр'ева.

# Вайна ці Мір?

БЭРЛІН (В.Т.Б.) 5.XI. Ад імя амэрыканскага ўраду Лянсінг апублікаваў ноту, у каторай наказаваецца, што саюзьнікі гатовы зрабіць мір на аснове праграмы Вільсона, але з тым агранічэньнем, што яны адмаўляюцца зьвязаваць сябе пунктам праграмы Вільсона аб свабодзе мораў. Занятыя немцамі землі павінны быць ня толькі пакінены але і вернены ўсе імі зробленыя шкоды.

БЭРЛІН (В.Т.Б.). 6.XI. **Урадова.** Нямецкая дэлегацыя для перагавораў аб замірэньні і аб міры сягоньня папалудні паехала з Бэрліна на заход.

---

## Для падпішчыкаў.

*Дзеля таго, каб нашы падпісчыкі на правінцыі атрымлівалі „Гомана" акуратна, яны павінны* **падпісывацца на газэту праз свайго старшыню (Amtsvorsteher) або праз Kreishauptmann'а.** *Іначэй почта газэты не перасылае.*

*Адміністрацыя.*

не, бо сабраньне будзе аканчальным і правамочным пры ўсякай лічбе сябраў.

× **Агляд мяса** робіцца цяпер не ў Галі, а на Завальнай вул., 66,7.

× **Саюз кватэрантаў.** На сваім апошнім засяданьні гэты саюз пастанавіў запрасіць да працы старшынь усіх віленскіх эканаміцкіх і культурных арганізацый.

× **Скорая помач.** За апошні тыдзень дадзена падмога 81 раз, з іх 45 разоў памагала карэтка скорай помачы.

× **Тэмпэратура.** Найвышэйшая і найніжэйшая тэмпэратура за апошнія нді была (па Цэльсію):

| | найвыш. | найніж. |
|---|---|---|
| 4—5 | + 7,2° | + 6,2° |
| 5—6 | + 8,2° | + 6,4° |
| 6—7 | + 9,1° | + 7,5° |

# З усяго Краю.

### Генэральны камісар Літвы.

Генэральным камісарам Літвы назначаецца патайны штацкі райчы Цыммэрле. Ен юрыст, сябра клерыкальнае партыі, умее палітоўску. Ен будзе выпаўняць функцыі начальніка цывільнага ўпраўленьня Літвы. Задачай яго будзе арганізацыя незалежнага літоўскага ўраду і пераданьня розных галін упраўленьня новаўтворанай літоўскай уладзе.

### З Тарыбы.

2 лістапада на сваім засяданьні Тарыба аднагалосна прыняла гэткую рэзалюцыю: „Прынятая 11 ліпня Тарыбай пастанова аб прадлажэньні гэрцогу Урэху кароны Літвы ня будзе споўнена. Аканчальнае разьвязаньне гэтага пытаньня пакідаецца ўстаноўчаму сэйму.

3 лістапада Тарыба прыняла рэзалюцыю аб уладжаньні 9-х міністэрстваў і гасударсьцьвенага кантроля, у тэй лічбе міністэрства абароны краю. 4 лістапада пасьпешная нарада аб пытаньні абароны краю. Прынята рэзалюцыя: 1) аб арганізацыі сілы для абароны краю, 2) магчыма хутка арганізаваць краёвую міліцыю, 3) асыгнаваньне паўтара мілёна на арганізацыю абароны краю, 4) дамагацца зараз-жа звароту з Нямеччыны палонных салдатоў і афіцэраў.

### Вольдэмар — міністэр-прэзыдэнт Літвы.

Тарыба выбрала міністрам-прэзыдэнтам Літвы свайго сябру Вольдэмара. Яму даручана ўтварэньне першага міністэрства Літвы.

### Нацыянальнае пытаньне.

Разьвязаньне пытаньня аб учасьці ўсіх нацыянальнасьцей краю ў арганізацыі яго ўжо некалькі разоў здымалася ў пасяджэньнях Тарыбы з парадку дня і адкладалася. Заместа гэтага прынята рэзалюцыя аб роўных правох усіх грамадзян Літвы незалежна ад нацыянальнасьці і веры.

### Пытаньне аб конфэрэнцыі.

Пытаньне аб скліканьні конфэрэнцыі, каторае некалькі разоў падымалася ў Тарыбе адложана да паданьня конкрэтнай праграмы конфэрэнцыі.

### Жыды і Тарыба.

Жыды паслалі ў Бэрлін дэпутацыю у пытаньні аб учасьці жыдоў у арганізацыі ўпраўленьня краем.

### Жыдоўская конфэрэнцыя

У Менску 25-27 лістапада будзе конфэрэнцыя жыдоў усяе Беларусі. Найважнейшымі пытаньнямі на конфэрэнцыі будуць—адносіны да Беларускай Рады, палітычнае палажэньне і абарона жыдоўскіх інтарэсаў на конфэрэнцыі аб міры.

Усе жыды нязвычайна цікавяцца конфэрэнцыяй.

### Протэст Літоўскай Тарыбы.

З Варшавы наказаваюць, што Тарыба запротэставала ў Ватыкане проціў назначэньня кс. Лозінскага рымска-каталіцкім менскім біскупам. Протэст асноўваецца польскай нацыянальнасьцяй кс. Лозінскага, а таксама тым, што Лозінскага пропанавала Ватыкану польская дзяржаўная рада. Беларусы ўжо тройчы прасілі аб прылучэньні Беларусі да Літвы. Гэткім парадкам пропанаваць Ватыкану кандыдата можа толькі Тарыба, а ня польская дзяржаўная рада.

### Проці большэвізма.

Агульная краёвая рада Ліфляндыі, Рыгі і Эзэля зьвярнулася з лістом да глаўнакамандуючага 8 арміі, у каторым просіць аб абароне проці большэвікоў паветаў: Рэчыцкага, Люцынскага, Дзьвінскага, Дрысенскага, Остроўскага і Ілукштцкага.

### Аб долі Старога Быхава.

Урад саветаў не заплаціў 1 лістапада сумы золатам, што належылася Нямеччыне. Дзеля таго што гэтым нарушана дапаўняючая ўмова да Берасьцейскага міра, то магчыма, што часьці Старабыхаўскага павету на ўсход ад ракі Дручы, адкуль павінна было быць выведзена нямецкае войска ад 10 да 15-га лістапада, астануцца і далей занятымі.

### Пэнсыі быўшым расейскім урадНікам.

Глаўнакамандуючы 10-й нямецкай арміі, ф. Фалькенгайн, апавяшчае, што б. расейскія ўраднікі (чыноўнікі) могуць даставаць сваю пэнсыю з расейскіх кас, каторыя цяпер у нямецкіх руках. Падмога ў месяц менш за 100 руб. будзе давацца зразу ўся, а пэнсыі балей за 100 руб. будуць выплачавацца на палавіну, але заўсёды ня меней за 100 рублёў.

### Патайны райчы Альтманн

Б. начальнік упраўленьня школамі Обэр Ост, патайны райчы Альтманн, памёр у Бэрліне на 57 г. жыцьця.

### Цана на хлеб у Менску.

У Менску фунт хлеба каштуе на расейскія грошы 2 р. 35 кап.

### «Унія Літвы з Польшчай».

„Прадстаўнік" нашага краю Столыпінскага часу, гр. Тышкевіч, выступае у „Kurjery Warszawskim" «за унію незалежнай Літвы з незалежнай Польшчай». Комэнтарыі на наш пагляд непатрэбны.

### «Да Польшчы».

33 тутэйшых палякоў ад імя польскага камітэту ў Вільні падалі адрэс рэгенцыйнай радзе ў Варшаве аб прылучэньні нашага краю да Польшчы. Падпісаўшыя адрэс усе вядомыя тутэйшыя эндэкі, ад каторых нічога іншага і ня можна было спадзявацца.

---

ГОРАДНА. Да гандляра сукном, Гэлера, каторы меў склад на 150 тысяч марак, уламаліся злодзеі і ўкралі тавару на 50 тысяч марак. Дзеля таго, што выбраны толькі самыя лепшыя рэчы, відаць што злодзеі былі напэўна адумыслоўцы ў суконнай справе.

БЕЛАСТОК. На новай шашэйнай вуліцы ўначы на 2-га лістапада злодзеі зламалі жалезную штабу і замкі, уварваліся ў магазын і вынесьлі адтуль усе запасы цукру, мукі, колёніяльных тавараў, 6.000 папірос і г. д.

КРЫПНА пад Беластокам. У земляроба Станіслава Шыманскага з пашы ўкралі двое дарагіх каней: 10-х гадоў кабылу і аднагодка жарэбчыка.

ШЧУЧЫН. У павеце Плянты знойдзены тры патайных бравaрні. З іх адна дзволі вялікая.

КРЫВУЛЬКА. 14 кастрычніка некалькі чужых дзяцюкоў пачалі зганяць у кучу качкі і класьці іх у мяшкі. Гаспадары качак злавілі злодзеяў і аддалі іх жандаром.

КОУНА. 1-га лістапада ў 9 г. увечары на Пятроўскай вуліцы № 4 знайшлі на ганку дзяўчынку 2-3 дзён з гэткай запіскай: „дзіця няхрышчонае, прашу назваць Аленай". Матка невядомая. Дзіця перададзена ў прытулак.

КОУНА. У апошнюю суботу з млына на Вялейскай вул. ўкралі тры раменных паясы ўдаўжкі 8, 10 і 12 мэтраў.

СЭЙНЫ. Тутэйшы вэтэрынар, Эдуард Ежукевіч, атруціўся з прычыны галіты морфіям.

---

### Новыя білеты пазычковае касы (Darlehnskassenscheine) на ½ 1 і 2 маркі.

(Глядзі «Гоман» № 87).

Білеты пазычковае касы на 2 маркі 8½: 13 цм. увелькі.

Пярэдняя старана мае дэлікатна-рожавы грунт. Аблямоўка, складзеная з кругавідных розэтак, абхопляве сярэднюю часьць. Кожная з гэтых малых розэтаў мае на рамцы ўвярху слова „Zwei" унізе слова „Mark". Ува ўсіх чатырох кутох аблямоўка гэта пераходзіць у чатырохкутнія куточкі, у нутры каторых ёсьць па вялікай цыфры «2». У сярэдзіне споднай рамкі на адкрытым полі ёсьць словы «Zwei Mark». На такім самым месцы верхняе рамкі памешчана васьмікутняя зоркавідная фігура.

Рожавы грунт апрыч аблямоўкі з пераплеценых між сабой крывых ліній, мае ў сярэдзіне ўзор з пераплеценых між сабой кругоў і во

---

Ой вясна мая
Вясёлая!
Уцьвесяліла ты
Усе рыначкі,
Далінaчкі,
Ідзе рабяткі
Зьбіраліся,
На мёд-гарэлку
Складаліся.
Ой, складаюцца —
Рахуюцца:
Бяры, Іванька,
Мёд-гарэлку,
Што выбраў сабе
Лепшую дзеўку!
Бяры, Іванька,
Болі за ўсіх;
Твая Ганначка
Лепі ўсіх... [4]

* * *

Ой ночы-ночы,
Супаўночы!
Кліч мяне, маці,
Вячэраці!
Мне твая вячэра
Даўно ня люба,
Што 'ддала мяне
За нялюбога.
Я яго змалку
Ня любіла,
Па яго сьляду
Камень каціла.
Камень каціла,
Траву сушыла
— Каціся камень,
У чыста поле,
З чыстага поля
На сіня мора!
Як табе, камень,
Ня ўсплываці,
Так мне з нялюбым
Не векаваці!
Ой ночы-ночы
Супаўночы!
Кліч мяне, маці,
Вячэраці!
Мне твая вячэра
Даўно люба,
Што 'ддала мяне
За любога.
Я яго змалку
Ішчэ любіла
Па яго сьляду
Пяро каціла.
Пяро каціла,
Траву зяляніла.
Каціся пяро
У чыста поле
З чыстага поля
На сіня мора!
Там табе пяро,
І ўсплываці,
А мне з міленькім
Век векаваці!.. [5]

(Далей будзе).

[4] М. Кульшычы.

[5] М. Кульшычы.

